Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 350
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 6 кастрычніка 1998 г. № 106 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## «Забойства Мікалуцкага раскрыта»

**Вялікая група дэпутатаў прэзідэнцкага парламента накіравалася сёння ў Магілёўскую вобласць на гадавіну смерці Яўгена Мікалуцкага.**

Нагадаем, што кіраўнік абласной службы кантролю Я.Мікалуцкі загінуў 6 кастрычніка 1997 г. у пад'ездзе свайго дома ў выніку тэрарыстычнага акта.

Як нам паведаміў віцэ-спікер ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў, іхняя група, у якую ўваходзіць 53 дэпутаты на чале з Анатолем Малафеевым, будзе ўдзельнічаць у адкрыцці помніка на магіле Мікалуцкага ў вёсцы Саськоўка Шклоўскага раёна, мемарыяльных дошак на школьскай школе, дзе калісьці вучыўся былы галоўны кантралёр, і на доме, дзе ён жыў. А ў будынку Магілёўскага абласнога камітэта Дзяржкантролю, які ўзначальваў Мікалуцкі, адчыняць пакой-музей. Па словах Канаплёва, прэзідэнт і прэм'ер не прыедуць, а выканаўчую ўладу будуць прадстаўляць старшыня Дзяржкантролю Мікалай Дамашкевіч і кіраўнік Магілёўшчыны Аляксандр Кулічкоў.

Тым часам сенсацыйную заяву зрабіў днямі начальнік аддзела крымінальнага вышуку Магілёўскай абласной міліцыі Аляксандр Карпаў. У інтэрв'ю мясцовай газеце ён паведаміў: *«Магу сказаць, што забойства Мікалуцкага раскрыта. Чытачы даведаюцца аб усіх падрабязнасцях гэтай справы пасля яе разгляду ў судзе, гэта адбудзецца даволі хутка».*

Учора кіраўнік Магілёўскай абласной міліцыі Віталь Апанасевіч у размове з нашым карэспандэнтам пацвердзіў словы свайго падначаленага і дадаў, што справа аб забойстве Мікалуцкага праз 10—15 дзён будзе перададзеная ў суд.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ, Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Дэтэктыўнае свята

### *Учора крымінальны вышук Беларусі адзначаў сваё 80-годдзе*

Як паведамілі нам у прэс-цэнтры МУС, беларускія дэтэктывы адлічваюць сваю гісторыю ад 5 кастрычніка 1918 года, калі народны камісарыят унутраных справаў РСФСР зацвердзіў «Палажэнне аб арганізацыі крымінальнага вышуку». У той час органы крымінальнага вышуку былі створаныя ў Мінскай, Магілёўскай і Віленскай губернях.

Супрацоўнікам крымінальнаму вышуку ставілася задача *«аховы парадку шляхам тайнага раскрыцця крымінальных злачынстваў»*, яны ж займаліся барацьбой з бандытызмам.

Сучасны крымінальны вышук расследуе забойствы, разбойныя напады, рабаўніцтвы, згвалтаванні, махлярствы, крадзяжы і іншыя злачынствы. Як вынікае з міліцэйскай статыстыкі, за першыя восем месяцаў гэтага года спецыялісты з крымінальнага вышуку раскрываюць у сярэднім два з трох зарэгістраваных злачынстваў.

Дарэчы, у міліцэйскіх колах лічыцца, што праца ў крымінальным вышуку — найцяжэйшая ў сістэме МУС. А вось заробкі зусім не высокія — у сярэднім 6-8 мільёнаў рублёў. Некаторыя і таго не атрымліваюць — напрыклад, малады лейтэнант, што прыходзіць у крымінальны вышук пасля заканчэння Акадэміі міліцыі, можа разлічваць толькі на стаўку ў 4 мільёны.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Ваяж*

## Пракаповіч і кампанія адправіліся ў Амерыку

**Сёння ў Вашынгтоне пачынае работу штогадовы сумесны сход Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Удзел у ім бяруць і высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі.**

Беларускую дэлегацыю ўзначальвае віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі. Разам з ім у Вашынгтон паехалі старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч, міністры эканомікі і фінансаў Уладзімір Шымаў і Мікалай Корбут. Як вядома, адносіны беларускіх уладаў з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі вельмі напружаныя. Кіраўніцтвы МВФ і Сусветнага банка сёлета нават адклікалі з Мінска сваіх пастаянных прадстаўнікоў.

Былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч лічыць, што паездка ў ЗША беларускіх чыноўнікаў з'яўляецца звычайным фармальным візітам, ад якога ніякіх пераменаў у адносінах нашай краіны з МВФ і СБ чакаць не варта. У штогадовым сходзе гэтых фінансавых арганізацыяў удзельнічаюць прадстаўнікі ўсіх краінаў-членаў, якіх больш 150, у тым ліку і Беларусь. Багданкевіч сумняваецца, што хто-небудзь з кіраўнікоў МВФ ці Сусветнага банка захоча сустракацца з беларускімі чыноўнікамі, бо пакуль з імі гаварыць няма аб чым. *«Нават калі здарыцца цуд, і Лукашэнка пачне прыслухоўвацца да парадаў экспертаў гэтых арганізацыяў, то яшчэ пройдзе нямала часу, пакуль кіраўнікі МВФ і СБ пераканаюцца ў шчырасці намераў беларускага прэзідэнта»,* — лічыць Станіслаў Багданкевіч.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Змена дэкарацый на фасадзе Нацыянальнага банка Беларусі.*

*Даўгі*

***Па словах прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, даўгі Беларусі па замежных крэдытах складаюць 976 мільёнаў доляраў. На думку кіраўніка ўрада, такая запазычанасць дапушчальная для краіны, паколькі на душу насельніцтва прыпадае менш за 100 доляраў.***

*Праекты*

***Сёння адбудуцца перамовы паміж урадамі Літвы і дэлегацыяй «Газпрома» па пытаннях будаўніцтва газаправода праз Літву ў Калінінградскую вобласць. Газправод у Калінінград павінен прайсці ад Мінска праз паўднёвыя рэгіёны Літвы, і ў далейшым ён можа быць злучаны з еўрапейскай транзітнай сістэмай газаправодаў. Прыбытак ад транзіту газу з Расіі, па меркаванні літоўскіх экспертаў, можа даць Літве да 32—40 млн. доляраў у год.***

### *З сённяшняга дня пачалі падаваць цяпло ў кватэры жыхароў сталіцы*

## Сагрэемся?

Надвор'е сёлета аказалася вельмі непаслухмяным. У час бітвы за ўраджай ішлі дажджы, а восень наогул выдалася халоднай. У Мінскі гарвыканкам пасыпаліся скаргі ад жыхароў, якія замярзалі ў адсырэлых кватэрах.

Як нам сказалі ў аддзеле энергетыкі Мінгарвыканкама, менавіта атака падмерзлых мінчан, а не прэзідэнцкае распараджэнне прымусіла падключыць ацяпленне значна раней, чым летась. Паводле існуючых нормаў, ацяпляльны сезон пачынаецца пасля таго, як на працягу пяці сутак сярэдняя тэмпература не перавышае 8 градусаў. У апошнія дні назіралася значна ніжэйшая тэмпература, пачаліся нават замаразкі. Як нам паведамілі ў Белгідраметцэнтры, з 1 па 5 кастрычніка ў Мінску сярэднесутачная тэмпература склала 1—3 градусы цяпла. У дзіцячых дашкольных установах, згодна з санітарнымі нормамі, тэмпература не павінна быць ніжэй за 18 градусаў, але апошнім часам яна дасягала толькі 14—16 градусаў.

У пятніцу ўсё ж затапілі ў мінскіх бальніцах, дамах дзіцяці, дамах-інтэрнатах для састарэлых. Учора ацяпляльны сезон пачаўся ў дзіцячых садках і школах. А сёння пачалі падаваць цяпло і ў кватэры (на працягу трох дзён падключаць увесь жыллёвы фонд). У службовых памяшканнях цяпло — з пятніцы—панядзелка.

Калі ў кватэрах пачалі часцей карыстацца абагравальнікамі, то на працоўным месцы гэта забараняецца спецыяльнай пастановай Мінгарвыканкама. Інспектары Мінскэнерга робяць аблавы і выпісваюць штрафы за абагравальнікі на працы.

Гарадскія ўлады абяцаюць трымаць у кватэрах тэмпературу не ніжэй 18 градусаў, хаця з паліўам тугавата. Праўда, начальнік аддзела энергетыкі Мінгарвыканкама Уладзімір Дацэнка сцвярджае, што паліўныя запасы «нармальныя». Тарыфы за ацяпленне для грамадзянаў павышаць пакуль не плануюць. Тым не менш камунальныя службы агітуюць людзей заняцца ўцяпленнем свайго жылля. Пакуль плануюць эканоміць паліва па пад'ездах шматпавярховых дамоў, якія не будуць падключацца да цеплацетак.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Знік самалёт з беларускім экіпажам

**У небе над Шры-Ланка знік самалёт АН-24, экіпаж якога складалі чацвёра лётчыкаў з Беларусі. Дзяржкамітэт па авіяцыі пацвердзіў інфармацыю аб прыналежнасці лётчыкаў да гомельскага авіятрада.**

Апоўдні 29 верасня самалёт АН-24 авіякампаніі «Лайонэйр» пад упраўленнем беларускага эпіпажа вылецеў з горада Джафна ў Каломба. На борце рэйса № 602, акрамя 4 членаў экіпажа, дзвюх мясцовых праваднiц і аднаго рабочага багажнага аддзялення, знаходзілася яшчэ 48 пасажыраў.

Праз тры хвіліны палёту самалёт звязаўся з зямлёй, каб атрымаць паветраны калідор, і больш на сувязь з дыспетчарамі не выходзіў. З тых часоў вядуцца пошукі, але пакуль безвынікова. Версіяў таго, што магло здарыцца з АН-24, некалькі: упаў у мора, разбіўся ў гарах, быў збіты мясцовымі партызанамі, зрабіў вымушаную пасадку ў джунглях. У Мінску спадзяюцца на лепшае. *«Вымушаныя пасадкі на ланкійскіх маршрутах здараюцца»,* — кажа намеснік старшыні Дзяржкамітэта па авіяцыі Васіль Ермакоў. Па яго словах, у Шры-Ланка ўжо вылецела спецыяльная камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Дзяржкамітэта і гомельскага авіятрада. МЗС Беларусі па сваіх каналах звярнуўся да ўрадавых структураў Шры-Ланка, з якой у нас няма дыпламатычных зносінаў, з просьбай аб садзейнічанні камісіі.

Прозвішчы лётчыкаў, якія зніклі ў небе над востравам, Дзяржкамітэт не паведамляе. Удалося даведацца толькі, што гэта быў вопытны экіпаж. У Шры-Ланка лётчыкі працавалі ўжо больш года.

Усяго, па звестках з Дзяржкамітэта па авіяцыі, за мяжой працуюць прыкладна 60 беларускіх экіпажаў. Іх наймаюць разам з самалётамі замежныя авіякампаніі. Нядрэнныя грошы атрымліваюць лётчыкі, а яшчэ больш перападае Дзяржкамітэту. *«У сённяшніх умовах мы вымушаем толькі таму, што здаем самалёты ў арэнду»,* — прызнаюцца авіятары Беларусі.

Неба, аднак, бярэ сваю плату за гэтае выжыванне: у мінулым годзе ў Афрыцы загінуў беларускі верталётчык. Новае здарэнне — у Шры-Ланка. Які ж лёс напаткаў чатырох лётчыкаў з Гомеля?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Парадніліся ў Гомелі

**У Гомелі 1—3 кастрычніка праходзіла сустрэча кіраўнікоў пароднёных беларускіх і расійскіх гарадоў.**

Прыехалі дэлегацыі з 37 беларускіх і 35 расійскіх гарадоў. На працягу трох дзён дэлегаты натхнёна шукалі, чым бы яшчэ стымуляваць працэс інтэграцыі дзвюх славянскіх краінаў. У выніку вырашылі «пабрацца шлюбам» яшчэ 15 беларускіх і расійскіх гарадоў, якія не паспелі парадніцца раней.

Ад імя прэзідэнта Лукашэнкі аўдыторыю вітаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг.

**Ганна САМАСЕЙ**

## Свята без пасла

**У суботу пасольства Германіі ў Мінску наладзіла прыём з нагоды нацыянальнага свята — Дня нямецкага адзінства.**

Сярод вялікай колькасці гасцей не было высокапастаўленых асобаў з беларускага ўрада і прэзідэнцкай адміністрацыі. Не было і нямецкага пасла Хорста Вінкельмана. Нагадаем, што спадар Вінкельман пакінуў Беларусь яшчэ ў чэрвені, пасля таго як беларуския ўлады выселілі яго з рэзідэнцыі ў Драздах. Нямецкіх дыпламатаў у Драздыы больш не пускаюць.

Дзень нямецкага адзінства на прыёме адзначалі прадстаўнікі апазіцыі, грамадскіх арганізацыяў і прэсы. Сярод гасцей былі старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і мітрапаліт Філарэт.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# 10 вагонаў пайшлі пад адхон

У суботу, 3 кастрычніка прыкладна ў 9.10 раніцы на чыгуначным перагоне Мінск—Пухавічы ў раёне пасёлка Дрычын (гэта непадалёк ад Рудзенска) здарылася чыгуначная аварыя. Сышлі з рэек і перакуліліся дзесяць вагонаў з камбікормам, лесам і патакай. Ніхто не пацярпеў.

Цікава, што перакулілася менавіта сярэдзіна саставу, а лакаматыў з першымі і апошнімі вагонамі засталіся на рэйках, іх хутка перацягнулі да бліжэйшых чыгуначных станцыяў.

Па ветцы Мінск—Асіповічы цягнікі не хадзілі да вечара. Але для шматлікіх дачнікаў, што ў суботу накіроўваліся ў свае лецішчы, быў наладжаны рух аўтобусаў. Месца катастрофы ачапілі міліцыянты. Рабочыя вёдрамі збіралі з рэек камбікорм ў паваленыя цыстэрны.

**Міхась КАРПОВІЧ**



*На здымку: на месцы аварыі рабочыя збіраюць камбікорм.*

*На ўрачыстасць у Гродна прыехалі 230 ксяндзоў з усёй Беларусі і 14 іерархаў з Польшчы*

## У касцёле — новы біскуп

**У гродзенскім Фарным касцёле адбылося пасвячэнне новага біскупа, якім стаў Антон Дзямянка — пробашч з Навагрудка. Ён стаў другім біскупам у каталіцкім касцёле Беларусі.**

На ўрачыстасці прысутнічаў кардынал К.Свёнтак, папскі нунцый Д.Грушоўскі, гродзенскі біскуп А.Кашкевіч, арцыбіскуп Т.Кандрусевіч з Масквы, 14 іерархаў з Польшчы і 230 святароў з усёй Беларусі. Антона Дзямянку блаславіла ягоная маці Ядзвіга, перад якой ён стаў на калені. Быў зачытаны на латыні, польскай і беларускай мовах дэкрэт Рымскага Папы Яна Паўла II аб наданні ксяндзу Дзямянку біскупскай годнасці. Абрад пасвячэння правёў кардынал Свёнтак. А.Дзямянка атрымаў сімвалы біскупскай улады: мітру (галаўны ўбор), Евангелле, сыгнэт — на безыменны палец правай рукі і пастарал — посах-жазло. А.Дзямянка застанецца служыць у Гродзенскай дыяцэзіі (епархія) і будзе тут другім — «дапаможным» біскупам. Патрэба ў ім узнікла таму, што за апошні час на Гродзеншчыне паявілася многа адноўленых і былі пабудаваныя новыя храмы, якія наведвае шмат вернікаў. Каб абслужыць усе парафіі, аднаго біскупа стала замала.



*Антон Дзямянка з сімваламі біскупскай улады.*

А.Дзямянка нарадзіўся 1 студзеня 1960 года ў вёсцы Заброддзе Стаўбцоўскага раёна. У сям'і было пяцёра дзяцей. У 1980 годзе ён стаў святаром, але адразу ж яго забралі ў войска. Два гады служыў у «стройбаце» пад Мурманскам.

З 1985 года ён адказваў за два прыходы ў Навагрудку, займаўся адбудовай храмаў у навакollі. У 1996 г. атрымаў званне магістра тэалогіі ў Каталіцкай акадэміі ў Варшаве.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Опять боремся?

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

В конце сентября сотрудниками КГБ был задержан работник управления Совмина М.Алексеев: его взяли с поличными при получении взятки. Наша газета уже сообщала, что А.Лукашенко похвалил «комитетчиков» за то, что они «принципиально и решительно» борются с коррупцией, «невзирая на лица».

Лозунг «борьбы с коррупцией» был одним из краеугольных камней избирательной кампании Александра Лукашенко. После президентских выборов «борьба с коррупцией» так и осталась не более чем лозунгом — повторяемым, кстати, гораздо реже. За время правления Лукашенко коррупция, на мой взгляд, не только не уменьшилась, но расцвела махровым цветом. Могло ли быть иначе?

Конечно, мы давно знаем цену обещаниям Лукашенко вообще и предвыборным в частности. Но даже если предположить, что Лукашенко всерьез решил побороться с коррупцией — ждет ли его успех на этом поприще?

Пока на этом фронте (да и не только на этом) Лукашенко не предложил ничего, кроме звучных угроз. Между тем мировой опыт показывает, что угрозы здесь не больно-то действуют: коррупция — такое преступление, на котором схватить виновника за руку очень трудно. Примеры наказания отдельных неудачников влияют слабо — вероятность попасть в их число для чиновника крайне невелика.

Есть важное условие, без которого невозможна действенная борьба с коррупцией: чиновников должно быть мало, а зарплаты у них — высокими. Тогда чиновник будет дорожить своим рабочим местом, хорошо обеспечивающим его без дополнительного «приработка» в виде взяток. За место в государственном аппарате возникнет жесткая конкуренция, которая обязательно должна подкрепляться соперничеством между политическими силами. Конкурент найдет недостатки в работе и укажет на них значительно успешнее, чем любая служба контроля.

В нашей ситуации выполнение данного условия потребует существенного сокращения бюрократического аппарата. Увы, на деле происходит наоборот — аппарат растет, официальные заработки чиновников довольно скромные, а уж политическая конкуренция вообще не допускается.

Чтобы свести к минимуму коррупцию — необходимо свести к минимуму возможность чиновника что-то решать по существу, регламентировать его деятельность соответствующими законами, которые никак не должны противоречить друг другу. Когда в законах имеются недосказанности и противоречия, чиновник получает возможность решать вопрос, «как левая нога захочет». А каким способом можно «отрегулировать» эту левую чиновничью ногу — хорошо известно.

В Беларуси противоречия наблюдаются не то что в законах — сам Лукашенко запросто может издать декрет вопреки законодательству. Да о чем тут говорить, когда в стране даже нет легитимного законодательного органа, легитимной Конституции, а законность подменена подзаконными актами или просто начальственными указаниями.

Также нужна открытость, прозрачность в деятельности властных структур, особенно в финансовых вопросах. В Беларуси же легально существует «теневой» бюджет, и ни о какой открытости просто не стоит вопрос.

Помнится, член Верховного суда США, выступая в печати, подчеркивал: американская система исходит из того, что каждый чиновник — негодяй и взяточник, и система не дает ему возможности реализовывать свои зловредные задатки. У нас же всё зависит от личной честности и порядочности. А отличаются этими качествами госслужащие, мягко говоря, не всегда.

В общем, для того, чтобы эффективно бороться с коррупцией, в Беларуси нужно серьезно реформировать систему управления государством. У нынешних властей такого намерения нет. Наоборот, режим всеми силами пытается сохранить номенклатурную систему советских времен. Как известно, данная система всегда действовала в интересах чиновников. А реальная борьба с коррупцией в эти интересы никак не вписывается.

Так что и в дальнейшем жертвами «борьбы с коррупцией» станут в основном те, кто провинился лично перед «батькой», плюс случайные «пострадавшие», которым просто не повезло. Коррупция же как явление не уменьшится, пока будет существовать такой режим.





*Служебный вход для чиновников обычно выглядит иначе.*

*Телевидение*

# Правильный канал для юных белорусов

**Юные граждане Беларуси, до последнего времени, несомненно, обделенные вниманием отечественного телевидения, уже в ближайшее время получат достойную компенсацию.**

Организация «Детский медиасервис», а также администрация президента и управление делами президента РБ проявили о них отеческую заботу, став соучредителями новой телекомпании «Детский ТВ канал». Предполагается, что канал начнет вещание уже в ноябре и будет в течение 12 часов в сутки транслировать информационные, музыкальные, а также развлекательные программы. Таким образом у молодого поколения белорусов отпадет необходимости смотреть российские каналы, как известно, далеко не всегда объективно отражающие ситуацию в РБ.

Реализация проекта не обошлась без сложностей. Поначалу им заинтересовался американский инвестор, предложивший вложить около 2 миллионов долларов. Однако быстрое падение имиджа Беларуси на международной арене заставило его поискать возможностей приложения своих денег в других местах. В настоящий момент заключена предварительная договоренность с одной из белорусских компаний, готовой проинвестировать 300.000 долларов. Этих средств должно хватить на основные организационные расходы. В дальнейшем канал, как ожидается, будет финансироваться из бюджета.

**СПРАВКА.** «Детский ТВ канал» получил лицензию на право эфирного вещания в марте 1998 года. Мощность передатчика — 5 кВт, а зона уверенного приема составляет 56 км. Администрации президента в лице Национального пресс-центра принадлежит 10% акций канала, управлению делами президента РБ в лице республиканского культурно-просветительного центра — 16% акций, оставшиеся 74% принадлежат организации «Детский медиасервис». Реализовывается проект под руководством фонда содействия средствам коммуникации.

**Константин КАШЕЛЬ**

# Грамадзяне Латвіі падтрымалі неграмадзянаў

**У мінулую суботу ў Латвіі адбыліся адразу дзве падзеі: выбары ў парламент і рэферэндум па пытанні лібералізацыі закона аб грамадзянстве.**

На выбарах перамагла кансерватыўная Народная партыя — цяпер яе прадстаўнік будзе ўзначальваць кааліцыйны ўрад.

У выніку рэферэндуму высветлілася, што большасць жыхароў Латвіі (53 працэнты) выступаюць за спрашчэнне працэдуры атрымання латвійскага грамадзянства.

У Латвіі жыве каля 500 тысяч прадстаўнікоў рускамоўнай нацменшасці, якія дагэтуль не маглі атрымаць латвійскага грамадзянства. Адной з абавязковых умоваў для атрымання грамадзянства было добрае веданне латвійскай мовы. Цяпер здаваць экзамен па мове ўжо не спатрэбіцца. Тым не меней, натуральна, што некаторае веданне мовы для нацыянальных меншасцяў усё ж будзе неабходным.

Тыя, хто выступаў за захаванне сённяшняга закона аб грамадзянстве, упэўнены, што спрошчаная працэдура атрымання латвійскага грамадзянства зробіць вялікую шкоду латышскай мове і культуры. Гэтага пункту гледжання прытрымліваецца, у прыватнасці, партыя правага крыла «Бацькаўшчына і Свабода», на чале якой стаіць латвійскі прэм'ер-міністр Гунтар Крастс.

Як заявіў латвійскі міністр замежных справаў Валдзіс Бірkaўс, крытыкі Латвіі ў Расіі і на Захадзе могуць супакоіцца: у латвійскім грамадстве больш не будзе праблемы правоў рускамоўнай меншасці.

Праблема нацыянальных меншасцяў была галоўнай перашкодай на шляху Латвіі ў *NATO* і ў Еўрапейскі саюз. Цяпер шлях у Еўропу для Латвіі адкрыты?

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Клінтан даў Мілошавічу два тыдні

**Газета «Нью-Йорк таймс» паведаміла ў пятніцу са спасылкай на высокапастаўленых прадстаўнікоў у адміністрацыі ЗША, што Біл Клінтан даў два тыдні югаслаўскаму прэзідэнту Слабадану Мілошавічу на канчатковы вывад спецпадраздзяленняў з краю Косава, дзе, пачынаючы з лютага, адбываюцца сутычкі паміж сербскімі часткамі і мясцовымі албанцамі.**

Як паведамляецца, Вашынгтон сур'ёзна папярэдзіў Белград, што амерыканскія войскі па сканчэнні гэтага перыяду будуць гатовыя пачаць у рамках *NATO* ваенную аперацыю на тэрыторыі Югаславіі. У прыватнасці, прадугледжваецца нанясенне ўдараў з паветра па пазіцыях сербаў у Косаве і, магчыма, у астатняй частцы Сербіі.

Большасць краінаў *NATO* ўжо афіцыйна абвесцілі аб тым, які ўклад яны гатовыя ўнесці ў магчымую акцыю альянсу.

Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія, якія пакуль яшчэ не абвесцілі публічна аб колькасці вылучаных сілаў, магчыма, з'явяцца асноўнымі іх пастаўшчыкамі. Францыя вылучае каля 20 самалётаў «Міраж» і «Ягуар», Германія — 14 «Тарнада» (8 самалётаў радыёэлектроннай барацьбы і 6 — разведчыкаў). Нідэрланды прадастаўляюць 14 самалётаў F-16, Іспанія — 4 знішчальнікі-бамбардзіроўшчыкі F-18 і адзін транспартны самалёт, Партугалія — тры F-16 і адзін фрэгат. Данія гатовая вылучыць не менш чатырох F-16 і 100 ваеннаслужачых. Італія аддае ў распараджэнне *NATO* свае базы і некалькі «Тарнада».

**Юлія ПЯТРОЎСКАЯ**

*Меньше всего пострадали от российских катаклизмов страны Балтии. Но у них тоже есть проблемы*

# Затоварились продуктами

**Ледяное дыхание российского кризиса мы ощущаем на себе каждый день. А в каком положении находятся другие государства, объединенные по западной терминологии аббревиатурой ННГ (Новые независимые государства)?**

Меньше всего пострадали от российских катаклизмов страны Балтии. Это и не удивительно — взяв восемь лет назад курс на Запад, они стали проводить по-настоящему радикальные реформы, мало заботясь о том, что по этому поводу думает их восточный сосед. Сегодня их национальные валюты остаются стабильными: эстонская крона жестко привязана к немецкой марке (8:1), а литовский лит — к американскому доллару (4:1), ну а латвийский лат сегодня «весит» почти столько же, сколько английский фунт — за него дают почти 1,7 доллара США.

Однако и на прибалтов события в России оказали серьезное влияние. Так, например, в **Литве** более других пострадала мясо-молочная промышленность, поставлявшая в РФ 25 процентов всей своей продукции. Замороженные взаиморасчеты и прекращение экспорта в Россию привели к затовариванию складов скоропортящимися товарами. Пытаясь спасти ситуацию, министерство сельского хозяйства начало скупать эти излишки. По первоначальным прогнозам, спасение предприятий этой отрасли обойдется государству в более чем 100 миллионов литов.

Непростая ситуация складывается и в **Эстонии**. 60 процентов руководителей фирм, занимающихся экспортом товаров в Россию, утверждают, что объем поставок их компаний в текущем квартале значительно снизился, а у половины снижение превысило 50 процентов. При этом каждая шестая фирма считает утрату российского рынка существенной потерей, поскольку большая часть их продукции направлялась именно в РФ. Как и в Литве, наиболее тяжело переживают влияние российского кризиса предприятия по производству продуктов питания, особенно молоко- и рыбоперерабатывающие.

К этому добавляется еще и незавидное положение советских военных пенсионеров, проживающих в Эстонии. Согласно договоренностям, деньги для выплаты им пенсий ежемесячно перечисляются в республику российским правительством. С августа эти деньги не поступают. Пока лишенным иных средств к существованию пенсионерам Москва обещает перечислить только 40 процентов августовских денег, судьба же остальных пока неизвестна.

**Латвия** находится практически в таком же положении, как и два других балтийских государства. Затоваривание продуктами питания в стране вынудило правительство пойти на беспрецедентный шаг — запретить ввоз в республику продукции мясо-молочной промышленности из Литвы и Эстонии. И это несмотря на существование договора о свободной торговле между всеми государствами Балтии!

Вообще-то, по данным аналитиков Всемирного банка, из всех балтийских стран наименьший риск пострадать от российского кризиса на сегодня имеет Эстония. Дело в том, что в эстонских банках хранилось меньше российских ценных бумаг, чем в латвийских и литовских. Кроме того, эстонский экспортный рынок главным образом находится все же на Западе, а рост экономики в странах Западной Европы продолжается. Вспомним, что именно по этим критериям Эстонию и зачислили в первоочередную группу стран, претендующих на постоянное членство в ЕС.

**Михаил СОКОЛОВСКИЙ**

*Візіт*

***7—9 кастрычніка па запрашэнні прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына з афіцыйным візітам у Маскве будзе знаходзіцца кіраўнік Палестынскай нацыянальнай адміністрацыі, старшыня Выканкама Арганізацыі вызвалення Палестыны Ясір Арафат. Будуць абмяркоўвацца праблемы мірнага працэсу на Бліжнім Усходзе і пытанні двухбаковых адносінаў. Мяркуецца, што ў ходзе візіту Ясіра Арафата будзе падпісанае эканамічнае пагадненне паміж Палестынай і Расіяй.***

*Крызіс*

***З Расіі працягваюцца ўцёкі капіталаў: толькі за верасень гэтага года краіну пакінулі 2,5 мільярды долараў, паведаміў шэф Цэнтрабанка РФ Віктар Герашчанка.***

*«Монікагейт»*

***Нягледзячы на скандал вакол Біла Клінтана, 62 працэнты амерыканцаў ухваляюць ягоную дзейнасць на пасту прэзідэнта ЗША. Такія вынікі дало сацыялагічнае апытанне, праведзенае амерыканскім часопісам Newsweek. А французскі тыднёвік L'Express надрукаваў дадзеныя апытання, праведзенага ў Германіі, Іспаніі, Францыі, Італіі і Вялікабрытаніі. 71% апытаных выказаліся ў падтрымку Клінтана. Прычым, самымі ярымі прыхільнікамі Біла аказаліся немцы, французы і італьянцы.***

*Інвестыцыі*

***Нямецкі аўтагігант «Фольксваген» плануе інвеставаць за пяць наступных гадоў больш 50 мільярдаў марак у стварэнне новых мадэляў аўтамабіляў.***

# У европейцев неладно со здоровьем

**Всемирная организация здравоохранения (ВОЗ) опубликовала отчет о положении дел в Европе — одном из самых заселенных регионов, где в 51 стране проживают 870 млн. человек. Выводы отчета не радуют: впервые в послевоенное время средняя продолжительность жизни европейцев снизилась.**

Снижение продолжительности жизни (с 73,1 в 1991 до 72,4 в 1994 году) произошло главным образом из-за резкого увеличения смертности в бывших республиках СССР и в Восточной Европе. *«В этих странах в настоящее время отмечаются самые большие проблемы со здоровьем их граждан»*, — подчеркивает Арун Нанда, глава отдела эпидемиологии, статистики и информации ВОЗ. По ее словам, есть множество достоверных данных, убеждающих в том, что именно алкоголь в значительной мере укорачивает жизнь — особенно среди мужчин среднего возраста на постсоветском пространстве.

Около 30 процентов взрослых европейцев ежедневно курят, что считается причиной 13 процентов всех смертей. И если уровень смертности от связанных с курением заболеваний среди мужчин в Западной Европе снизился, то среди женщин он продолжает расти. Самое большое число курящих женщин в скандинавских странах — Дании, Норвегии и Швеции. *«Курение убивает 3.500 человек ежедневно*, — подчеркнул Нанда. — *Это эквивалентно гибели 25 пассажирских авиалайнеров»*.

**Б.П.**

# План Черчилля

**Всего через несколько дней после окончания Второй мировой войны британский премьер Уинстон Черчилль распорядился разработать план англо-американского вторжения в СССР.**

Об этом со ссылкой на документы, найденные в британских государственных архивах, пишет лондонская *Daily Telegraph*. План боевых действий, представленный премьер-министру Черчиллю 22 мая 1945 года, предусматривал удар по территории Советского Союза с севера Германии силами 47 дивизий. Имелось в виду на помощь 500 тысячам английских и американских солдат привлечь 100 тысяч немецких военнослужащих. Предполагалось, что Сталин нанесет ответный удар по Турции, Греции, Норвегии, нефтяным месторождениям Ирака и Ирана, а также развернет диверсионную деятельность во Франции, Бельгии и Голландии.

Однако план этой «Немыслимой операции», как она называлась в документах, был отвергнут, и ставка была сделана на оборонные мероприятия, способные отразить возможное нападение Красной армии.

Историки давно предполагали существование подобных планов, однако до сих пор документальных доказательств не имели. Считалось даже, что они утеряны. Понятно, что находку сочли очень важной и многое объясняющей. Возможно, в частности, тот факт, что без всяких видимых причин Красная армия произвела 29 июня 1945 года полную передислокацию.

**Валерия ШАБАЕВА**

# Армянский коньяк превращается в бренди

**На днях знаменитый Ереванский коньячный завод, несколько месяцев назад проданный французской фирме «Перно — Рикар» всего за 30 млн. долларов, официально переименован в завод бренди.**

Хотя в свое время правительство, стремясь успокоить общественность и затушить разгоревшийся по поводу этой сделки нешуточный скандал, устами ряда министров заявило, что предприятие сохранит свою самобытность и что на этикетках его продукции по-прежнему будет написано: «Армянский коньяк».

Ничего подобного! Французы, приобретя у своих конкурентов, завоевавших на международных конкурсах и ярмарках сотни золотых и серебряных медалей, прибыльное предприятие, шаг за шагом добивались своего: сначала с этикеток исчезло слово «коньяк», уступив место непривычному «бренди», а теперь и вовсе изменено само название завода.

Между тем, как отмечают некоторые эксперты, во всей этой грустной истории есть, может быть, одна положительная сторона: в нынешний сезон армянские виноградари впервые за постсоветские годы столь активно и охотно сдают свой урожай бывшему коньячному заводу. Несомненно, важную роль сыграли установленные здесь относительно высокие закупочные цены на виноград — от 87 до 107 драмов (или примерно 17 — 21 цент) за килограмм в зависимости от степени сахаристости. К тому же фирма «Перно — Рикар» в соответствии с взятыми на себя обязательствами сразу же расплачивается с поставщиками сырья живыми деньгами.

Согласно договору о продаже Ереванского коньячного завода, армянская сторона должна была передать французам и хранящиеся здесь запасы — 1 млн. 639 тыс. декалитров коньячного спирта со сроком выдержки от 3 до 100 лет. Проведенные же новыми хозяевами проверки показали, что таких запасов на предприятии уже нет. Информация о том, сколько не хватает, пока держится в строжайшей тайне. По этому поводу сейчас идут разбирательства. И совершенно очевидно, что пока они не завершатся и не удовлетворят французов, «Перно — Рикар» не начнет направлять инвестиции в ереванское предприятие.

Тем временем назревает и другая проблема. До сих пор фирма «Перно — Рикар» заплатила за приобретение ереванского завода лишь 2 млн. долларов, и не за горами 10 декабря — последний срок внесения в армянскую казну остальных 28 млн. Только в этом случае сделка будет считаться завершенной. Но захотят ли французы — при сложившихся обстоятельствах — довести дело до конца?

Или все же продажа завода не состоится — к великой радости многочисленных противников этой сделки, которую здесь нередко называют не иначе как грабительской и позорной для Армении. О том, насколько серьезны подобного рода настроения, очевидно, свидетельствует и тот факт, что в стране создана и официально зарегистрирована общественная организация «Армянский коньяк-98», ратующая за сохранение знаменитого предприятия в руках государства.

**Ашот МЕЛИКЯН**

# На заработки в Штаты

**Многие из наших сограждан все чаще задумываются над тем, куда бы «свалить» из родного белорусского государства. Люди ищут варианты, чтобы уехать на Запад — с целью заработать и вернуться либо остаться там навсегда. И хотя мы, журналисты газеты НАВІНЫ, не хотим поощрять эмиграцию, тем не менее писать об этом приходится — поскольку это интересует наших читателей. Судя по письмам в редакцию, многие озабочены этим весьма конкретно. Причем, за границу тянутся деятельные, талантливые и, главное, трудолюбивые люди. Наибольшей привлекательностью пользуются Соединенные Штаты.**

### Билет в два конца

Официально для трудоустройства в США нужна рабочая виза. Но, как правило, выезжающие оформляют гостевую. А потом ее продлевают или легализуют свое пребывание в Америке (получают временный вид на жительство). Сделать это можно через американского адвоката. Его услуги обойдутся в 2—3 тысячи долларов.

При получении визы вам потребуется авиабилет, причем туда и обратно (билет с открытой датой вылета действителен в течение трех лет). Это своеобразная гарантия посольству, что вы не имеете планов остаться в Америке навсегда.

Конечно, работа при наличии в паспорте гостевой визы не совсем легальна. Но служба иммиграции и натурализации США вас не арестует, если вы будете добропорядочно трудиться и не нарушать закон и общественный порядок.

Независимо от того, какая у вас виза — рабочая или гостевая, во время своего пребывания в Америке вы не будете иметь никаких гарантий. Не понравились вы при личном знакомстве работодателю, он вправе не взять вас на работу вообще или уволить до окончания срока контракта.

Больше всего шансов получить хорошую работу в США у высококвалифицированных программистов, ученых-физиков, ядерщиков, химиков. Заработная плата таких специалистов как минимум 1,5 тысячи долларов в месяц. Знание английского языка обязательно.

### Вакансии ищите в Интернете

В поисках работы нужно заглянуть в Интернет (там есть специальная страничка «Зарубежные вакансии», где указаны телефоны и адреса фирм, предоставляющих рабочие места) либо (если речь идет о научных сотрудниках) предложить свои услуги ведущим американским университетам. Работодателю (чаще всего по электронной почте) направляется письмо, в котором кандидат рассказывает о своих публикациях, ученых степенях и достижениях в науке. Если ваша кандидатура и направление исследования заинтересуют американских коллег, они вышлют по электронной почте приглашение. Возможно, попросят позвонить в офис.

Срок контрактов с учеными не ограничен — от 6 месяцев до конца жизни.

Помимо ученых, в США высоко котируются программисты. Заработная плата «приезжих» компьютерщиков — 30—35 тысяч долларов в год. Тогда как местному специалисту американский работодатель по закону вынужден платить не менее 75 тысяч долларов в год.

В Интернете есть отдельная страничка с информацией о вакансиях для программистов (заранее скажем, что претенденту потребуются знания в области не только компьютерных языков, но и английского — разговорного и технического).

### От няни до грузчика

Найти в США неквалифицированную работу вполне реально. Америке нужны грузчики в супермаркетах, обслуживающий персонал аэропортов, рабочие морских доков, водители-дальнебойщики. Приглашаются люди для грязной работы на различных фабриках, кухнях, в химчистках, прачечных. Постоянно требуются уборщики жилых и нежилых помещений (кстати, это чисто мужская специальность). Ограничения по возрасту для рабочих — не моложе 23 и не старше 40 лет. Кстати, спрос на уборщиков в США постоянно растет (хотя их и сейчас уже 3,2 миллиона) — все американцы хотят, чтобы было чисто, но никто не рвется к метле и совку.

Среди постоянных вакансий для женщин (от 30 до 55 лет) — няни, гувернантки, домработницы. Молодым девушкам получить рабочую или гостевую визу сложнее. В посольстве уже знают, что многие приезжие «бабочки» занимаются в Америке проституцией, а потому визы дают неохотно.

Нужны в Америке горничные в отелях и сиделки по уходу за больными и престарелыми. Претенденткам понадобится элементарное знание английского языка. Заработная плата неквалифицированных кадров — от 200 до 1.000 долларов в месяц. Это те деньги, которые рабочие получают на руки. Для нянь и гувернанток предусмотрен полный пансион. Горничные, грузчики и пр. снимают жилье и питаются самостоятельно.

### У них тоже текут краны

Требуются в США и ремонтники (слесари, плотники, водопроводчики, электрики, ремонт холодильных установок, кондиционеров и отопительных приборов). Этим занимаются сейчас в Штатах 1.273.000 человек. Треть занята в промышленности, две трети — в школах, университетах, гостиницах, больницах, домах престарелых, а также в частных фирмах и государственных конторах. Люди, которые знают, почему течет кран и как починить газонокосилку, нужны везде и всегда, тем более, что на Западе наша модель: «Был бы мужик в доме — все сделает» — не срабатывает. Самому лезть чинить розетку дома или паять какой-нибудь вышедший из строя прибор в лаборатории — категорически не принято. Зовут мастера.

Согласно обзору рабочих мест в 160 городах, средний ремонтник получает в среднем 9,40 долларов в час (сфера обслуживания) или 10, 20 долларов (производство). Плюс сверхурочные. В ближайшие шесть лет потребность в их умелых руках будет только возрастать.

Впрочем, умелые руки требуются и у нас. Подумайте, может дома можно найти им применение и хорошо зарабатывать.

*По материалам зарубежной прессы подготовил* **Андрей ПРОКОПОВИЧ**

# Даты і лёсы

## *6 кастрычніка*

***У гэты дзень з дапамогай святой Іраіды сяляне ўцяплялі хату: «Уцяпліць хату да Пакрова — будзе хата зімой талкова».***

**1763.** На наступны дзень пасля смерці Аўгуста III расійская імператрыца Кацярына II правяла нараду, на якой было вырашана патрабаваць ад кандыдата на польскі і беларуска-літоўскі прастол Станіслава-Аўгуста Панятоўскага перадаць Расіі за падтрымку ўсходнія абшары Рэчы Паспалітай. Прапанаваная дзяржаўная мяжа дакладна супадала з будучай мяжой пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, які адбыўся праз 9 гадоў.

**1921.** У Мінску выйшаў спецыяльны выпуск газеты «Беларусь — Паволжу», прысвечаны дапамозе галадаючым. У газеце — вершы Купалы, Коласа і інш. Наколькі гэта дапамагло галоднаму Паволжу, невядома.

**1981.** У Каіры падчас ваеннага парада быў забіты мусульманскімі экстрэмістамі прэзідэнт Егіпта Анвар Садат. Праз тыдзень у краіне быў праведзены рэферэндум, па выніках якога новым прэзідэнтам быў абвешчаны былы віцэ-прэзідэнт Хосні Мубарак. Адначасна ён з'яўляецца таксама прэм'ер-міністрам, галоўнакамандуючым узброенымі сіламі і генеральным сакратаром урадавай Нацыянал-дэмакратычнай партыі.

**1987.** Палкоўнік Сітвені Рабука абвесціў незалежнасць астравоў Фіджы ад Вялікабрытаніі.

## *7 кастрычніка*

**3761 да нашай эры.** Калі верыць складальнікам іудзейскага календара, у гэты дзень біблейскі Бог стварыў святло і цемру.

**1571.** Адбылася буйнейшая марская бітва Сярэднявечча і апошняя з буйных у гісторыі веславога флоту. 300 іспанскіх галераў з 80 тыс. жаўнераў на борце разграмілі пры Лепанта (ля ўзбярэжжа Грэцыі) яшчэ больш шматлікі турэцкі флот. Вялікі пісьменнік Сервантэс страціў у гэтай бітве руку. У гонар гэтай перамогі хрысціянаў над тагачасная «імперыяй зла», якая пагражала захапіць усю Еўропу, Тыцыян напісаў карціну «Іспанія ратуе рэлігію», а кароль Англіі і Шатландыі Якуб Сцюарт — паэму.

**1908.** Крыт паўстаў супраць панавання туркаў і неўзабаве ўз'яднаўся з Грэцыяй. У той жа дзень Аўстра-Венгерская імперыя анексавала Боснію і Герцагавіну, на якую прэтэндавала таксама Сербія. Праз некалькі гадоў адтуль і пачалася Першая сусветная вайна.

**1918.** У Мсціславе нарадзіўся выбітны беларускі мастак-экспрэсіяніст Ізраіль Басаў — «мінскі Шагал» індустрыяльнай эпохі. Сталіца БССР на яго палотнах нагадвае нейкі паўночны Ерусалім, дзе могуць паўтарыцца ўсе біблейскія сюжэты.

**1988.** Пачалася міжнародная акцыя па ўратаванні статка шэрых кітоў, што трапілі ў лёдавы палон ля ўзбярэжжа Аляскі: ледаколы некалькіх краінаў расчысцілі ім шлях да вялікай вады.

## *8 кастрычніка*

***Дзень св.Сергія РадАнежскага (памёр у 1391 г.), вядомы таксама як Сергій-капуснік. Сяляне секлі капусту на зіму: «Відэльцы ў вядро, сячы серабро, сячы-мяльчы, у кадушку тапчы!» Пяклі пірагі і праснакі з капустай. Каб жылося заможна, першы праснак закопвалі ў зямлю.***

**1806.** Брытанскі флот упершыню скарыстаў ракеты для абстрэлу французскага порта Булонь.

**1831.** Нарадзіўся выбітны беларускі скрыпач і кампазітар Міхал Ельскі. Збіраў фальклор, народныя мелодыі, напісаў каля 100 музычных твораў.

**1920.** 1-ая літоўска-беларуская дывізія польскага войска на чале з Люцыянам Жалігоўскім паўстала супраць перадачы бальшавікамі Віленскага краю Літве. 9 кастрычніка дывізія, якая налічвала 52 тыс. жаўнераў, выбіла літоўскі ўрад з Вільні ў Шаўляй. Было абвешчана пра ўтварэнне Сярэдняй Літвы, якая ўключала ў сябе паветы Віленскі, Троцкі, Свянцянскі, Лідскі, Ашмянскі і Браслаўскі. Праз паўтара года яна ўвайшла ў склад Польшчы.

**1963.** БССР падпісала Маскоўскі дагавор пра забарону выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, касмічнай прасторы і пад вадой.

**1965.** У Лондане адчыніўся найвышэйшы ў Брытаніі будынак паштамта, які мусіў скласці пэўную канкурэнцыю Эйфелевай вежы ў Парыжы, бо мае падобныя пляцоўкі для агляду панарамы горада з вышыні птушынага палёту і рэстаран, што круціцца вакол сваёй восі. Усё сапсавалі ірландскія тэрарысты з *IRA*: пасля выбуху некалькіх бомбаў вежа *Post Office Tower* для публікі была зачыненая.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Кого любят мужчины?

**ФРАНЦИЯ.** Французам нравится элегантная женщина, сочетающая материнство и профессию. Днем она должна быть старшим менеджером, а ночью — сексуальной. И ее ноги должны быть непременно красивыми.

**АМЕРИКА.** Американским мужчинам в их женщинах нравятся грудь умеренного объема, голубые глаза, загар и хорошенький кругленький задик. Шикарная одежда не имеет значения: джинсы и кроссовки вполне подойдут. Если женщина окажется более умной, чем мужчина, ей должно хватить ума не показывать этого.

**БРИТАНИЯ.** Английские женщины — крупнейшие покупательницы косметики, но по всему видно, что ничего из этого арсенала не срабатывает на типичном британце. Ему нравится, когда женщина выглядит, как леди, а не сексуально; и чтобы у ее профиля была достаточно тяжелая нижняя челюсть. Местные мужчины считают, что это аристократично.

**ИТАЛИЯ.** Софи Лорен — лучшая иллюстрация наиболее привлекательного типа женщин для итальянских мужчин. Она почти богиня — с пышной грудью и узкой талией. Итальянки должны одеваться так, как будто собираются сниматься в кино в главной роли, пользоваться обильным макияжем, а также духами; на шее масса цепочек, на руках — браслеты. Платья же должны манить и соблазнять.

**ЯПОНИЯ.** Японским мужчинам все равно, какая у женщины фигура. Для них сексуально значимы лицо и шея, вот почему японки поднимают волосы и делают высокие прически. Некоторые японцы даже думают, что если женщина носит волосы, распустив их по плечам, значит она грязнуля.

**ИСПАНИЯ.** Испанская женщина должна иметь длинные волосы и носить такую одежду, которая подчеркивает ее бюст и очертания тела. Она должна быть очень гордой. Очень большое значение имеют ее глаза — испанка должна уметь совращать и завлекать глазами.

*КАДРЫ*



# Забавы богачей

**Приключения бывшей стажерки Белого дома Моники Левински не оставили равнодушным австрийского миллионера с запоминающимся именем Франц Йозеф Мерседес-Мерседес. 60-летний бизнесмен предложил Монике миллион долларов, если она проведет с ним «сеанс орального секса» в Вене.**

Интересно, что австрийский миллионер решил обнародовать свое пикантное предложение и рассказал о нем корреспондентам австрийского агентства АПА.

Многие, правда, задаются вопросом, а не выдумка ли все это. Может быть, какой-то остроумный журналист просто придумал персонаж с такой редкой фамилией? Однако выяснилось, что данный господин существует в действительности и отличается большим трудолюбием. Франц Йозеф Мерседес-Мерседес сколотил солидное состояние на продаже компьютеров и до сих пор работает каждый день в своей фирме по 14-18 часов.

Известно, что Мерседес-Мерседес отличается некоторыми странностями. Например, не так давно он разослал в ряд газет извещение о своей кончине. Объявление было опубликовано. После этого некоторые знакомые «двойного Мерседеса» едва не падали в обморок, увидев его живым и здоровым. Автор шутки остался доволен.

**Владимир АМБРОСИМОВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1244 Нумар падпісаны ў друк 05/10/98 (15:30) Наклад — 18 350.